ПРЕЗИДЕНТСКИЕ ВЫБОРЫ — пройденный этап
Как жить дальше? 3



Александр СОЛОДУХА желает нашим читателям счастья и любви! 6

"Нельзя любовь судить"
Новыя імёны на ЛІТАРАТУРНАЙ СТАРОНЦЫ 8





# ГАЗЕТА ДЛЯ ВАС

ІВАЦЭВІЧЫ-БАРАНАВІЧЫ-БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ-ДРАГІЧЫН

выдаецца са студзеня 1997 года | 12 — 18 кастрычніка 2001 г. | 41 (304)


## "ЦІХАЕ ПАЛЯВАННЕ"

### людзей на грыбы, грыбоў на людзей

**Восень кожнага года, акрамя бязбожных пакутаў на бульбяных палетках, характарызуецца павальным захапленнем усіх нас іншым, як быццам, больш вясёлым заняткам — зборам грыбоў.**

Але збор грыбоў — гэта не збор чарэшні. Кожны год "ціхае паляванне" — без ружжаў, стральбы-пальбы, п'яных цюгаканняў — забірае дзесяткі жыццяў дарослых і дзяцей ды здароўе падрывае. Сумняваецеся? Ну дык прыміце да ведама наступныя лічбы і дадзеныя.

На 1 кастрычніка 2001 года ў нашай сінявокай Беларусі атрымалі сур'ёзнейшыя атручванні 231 чалавек, 32 з іх — памерлі.

Улічвайце, што:

а) сезон нарыхтоўкі грыбоў яшчэ ў самым разгары,

б) па дадзеных адпаведных служб, на тэрыторыі РБ зафіксавана каля 3000 разнавіднасцяў грыбоў, з ліку якіх толькі 200 прыдатныя да яды,

в) чацвёртая частка шляпкі белай паганкі (грыба, вельмі падобнага на сыраежку) здольна выклікаць вельмі цяжкае атручванне, а адной такой знаходкі дастаткова, каб жыццё 5-7 чалавек павесіць на валасок,

г) атрутныя рэчывы той жа паганкі захоўваюцца поўнасцю пры кіпячэнні, пры засолцы і г. д.

Здавалася б, дастаткова для такой разнавіднасці асаблівага арганізма, якім з'яўляюцца грыбы. Дык не! Аказваецца, такую заразу, як радыенукліды, мацней за ўсё ў прыродзе зноў жа ўсмоктваюць грыбы.

Вось вам, шаноўныя чытачы, "для затравкі" расказ жыхаркі г. Івацэвічы, чытачкі "Газеты для вас" Антаніны Крот:

— Мой муж, вялікі аматар збору грыбоў, цягне дадому самыя розныя дары лесу. Днямі прынёс два кашы польскіх грыбоў і масьлякоў. Палову я высушыла, палову замарынавала.

Прачытаўшы артыкул пра тое, што дары лесу могуць усмоктваць радыенукліды, рашыла занесці адзін са слоікаў марынаваных грыбкоў у Івацэвіцкую санэпідэмстанцыю. Вынік даследаванняў быў аглушальны: грыбы "свецяцца", іх неабходна тэрмінова выдаліць з халадзільніка. Праверыць і выдаліць з халадзільніка неабходна і тыя прадукты, побач з якімі стаялі грыбы. Сушаныя, яны тым больш захоўваюць радыенукліды, іх таксама неабходна тэрмінова праверыць...

Вось як каменціруе сітуацыю галоўны санітарны ўрач Івацэвіцкага РЦГіЭ **Аляксандр КОВЫШ**:

— У нас рэгулярна рэгіструюцца выпадкі "зашкальвання" ўзроўню дапушчальных норм радыенуклідаў менавіта ў грыбах. А тыя, аб якіх вы ўспамінаеце — паддубнікі, польскія, сінякі, — лепш увогуле не збіраць.

Праблема ў наступным. Ні адзін участак лесу ў нашым Івацэвіцкім раёне не можа лічыцца безумоўна чыстым, хоць, у цэлым, мы можам сцвярджаць, што радыеактыўны фон у раёне не перавышае норму — адзін кюры на адзін квадратны кіламетр. Радыенукліды, як вы ведаеце, аселі нераўнамерна, так называемымі плямамі, таму немагчыма сцвярджаць, да прыкладу, што козіцкі лес чысцейшы за вулькааброўскі.

Праблема і ў абыякавасці нашых суграмадзян. "Эх! — думае сярэдні абывацель. — Лішнія 100 грамаў цэзія мне не пашкодзяць". Хоць тымі грыбамі частуюцца дарослыя, дзеці і госці гэтага самага абывацеля.

Зафіксаваны выпадкі і атручванняў. На мінулым тыдні ў Целяханскай зоне сям'я з чатырох чалавек, якая прыехала ў госці з Краснадарскага края, атруцілася грыбамі. Ёсць і іншыя прыклады, пра якія мы ўжо паведамлялі...

Задумаемся?

**Аляксандр ГОРБАЧ.**
**г. Івацэвічы.**




**Ці панясе юны грыбнік (ці яго бацькі) сабраныя грыбочкі на праверку?**

ЧАС РЭСПУБЛІКІ

## Запазычанасць па Брэстчыне — 5 мільярдаў рублёў

**Гэта 10 працэнтаў ад агульнага фонду заработнай платы па вобласці. Прычым, як адзначаюць у аб'яднанні прафсаюзаў, запазычанасць узнікла за апошні месяц. У канцы жніўня пратэрмінаванай запазычанасці не было.**

Асноўныя даўгі — каля 4 мільярдаў рублёў — прыпадаюць на аграрны сектар. У прамысловасці доўг па зарплаце складае 180 мільёнаў, у будаўніцтве — 164 мільёны рублёў. Паводле афіцыйных звестак, толькі Брэсцкі раён і Баранавічы не маюць запазычанасці. У цяжкім стане апынуліся працаўнікі Баранавіцкага , Кобрынскага, Пінскага і Столінскага раёнаў. Існуюць праблемы з выплатай заработнай платы і ў прыватных фірмах. Напрыклад, як стала вядома БелаПАН, на прадпрыемстве "Рубікон" у Брэсце некаторыя работнікі не атрымліваюць зарплату па некалькі месяцаў.

Спецыялісты абкама прафсаюза сцвярджаюць, што акрамя агульнавядомых эканамічных прычын, да запазычанасці вядзе стратнасць прадпрыемстваў, а таксама неканкурэнтаздольнасць прадукцыі. Па прагнозах спецыялістаў, у бліжэйшы час даўгі па зарплаце будуць расці.

## Пяцікратны рост колькасці псіхаў

**Гэты страшны факт прагучаў у Брэсце, на навукова-практычнай канферэнцыі па праблемах псіхічнага здароўя насельніцтва. Галоўны ўрач абласнога псіханеўралагічнага дыспансера Аляксей Кузняцоў адзначыў, што за апошнія пяць гадоў у Брэсцкай вобласці ў пяць разоў узрасла колькасць псіхічных расстройстваў.**

Заўважце, не на 5 ці 50 працэнтаў, а ў пяць разоў. Дасведчаныя спецыялісты гавораць, што амаль такая ж сітуацыя і ў іншых рэгіёнах. Калі такімі тэмпамі хвароба будзе развівацца і далей, дык беларусы даволі хутка могуць ператварыцца ў нацыю псіхаў.

Якія ж прычыны расстройстваў? Вучоныя і медыкі называюць такія: алкагалізм, эканамічнае бязладдзе, беспрацоўе, наркаманія. Вось з гэтых "кветачак", якія так настойліва "вырошчвае" цяперашняя ўлада, і з'явіліся першыя плады — пяцікратны рост колькасці псіхаў. Ці тое яшчэ будзе?

## Ожидаются мигранты из Афганистана

**Брестские пограничники ожидают увеличения количества нелегальных мигрантов из Афганистана. Об этом БелаПАН сообщили в пресс-службе Брестской погрангруппы.**

В этом году пограничники задержали 291 нарушителя границы. Большая часть из них — беженцы из стран СНГ: 53 человека — граждане Молдовы, 21 — Грузии, 18 — Азербайджана. 63 нарушителя представляют афроазиатский регион, причем 18 из них являются гражданами Афганистана.

Как сообщил пресс-секретарь Брестской погрангруппы Дмитрий Девятов, в сентябре в деревне Огородники Брестского района была задержана группа из 23 человек, из которых 19 — беженцы из Афганистана (11 взрослых и 8 детей). Они пытались нелегально переплыть реку Буг. По словам Девятова, свои попытки пересечь белорусско-польскую границу беженцы объясняют сложной ситуацией в Афганистане и военными действиями. Пограничники допускают, что с началом акции возмездия США число беженцев-нелегалов увеличится. Тем более что имеют место случаи, когда поляки не пропускают через границу даже тех граждан Афганистана, у которых документы в порядке. Именно эти люди, предполагает пресс-секретарь, могут пытаться пересечь границу нелегально.

## Больше всех намолотил — приз за это получил!

**Вот и заполнились закрома Родины. Всего по Беларуси намолочено 6 миллионов тонн зерна. Из них 871 тысячу тонн убрала Брестская область. И хотя это не наилучший результат, но всё-таки жители Брестчины показали, что работать могут.**

На "Дожинках-2001", что проходили в Каменце, были названы победители республиканского соревнования среди комбайнёров. Ими стали члены семейного экипажа Березовской райагропромтехники комбайнеры Сергей Иванович Четырбок и Геннадий Сергеевич Четырбок. Они на своём комбайне "Мега 204" намолотили 1967 тонн зерна, за что и были награждены автомобилем и мотоциклом.

Вторые призовые места получили: водитель Дрогичинской райагропромтехники Александр Леонтьевич Маслов, водитель колхоза "Октябрь" Ляховичского р-на Виктор Сергеевич Коваленко, комбайнеры Барановичской райагропромтехники Александр Борисович Климашевский и Дмитрий Владимирович Щербацевич. В качестве призов им всем были вручены телевизоры.

(БелаПАН).

## ☎ Ці можа быць жыллё залогам?

**"Газета для вас?" Добры дзень. Чытаў у вашай газеце, што з нядаўняга часу прыватныя прадпрымальнікі могуць браць крэдыты ў валюце. Але патрэбны цвердыя гарантыі. Залог. Ці можа ў такой сітуацыі жыллё — кватэра ці дом — быць залогам?**

**Міхась ГОЙШЫК, г. Івацэвічы.**

За адказам на пытанне мы звярнуліся да Ганны Іосіфаўны ЛЯШКОВАЙ, кіраўніка Івацэвіцкага філіяла "Прыорбанка".

— Жыллё можа быць залогам толькі ў тым выпадку, калі ў кватэры ці доме пражывае толькі адзін чалавек — той, хто жадае ўзяць крэдыт. Калі, напрыклад, там пражывае сям'я, то аб тым, каб жыллё стала залогам, не можа быць і размовы: у нашым заканадаўстве не існуе адпаведнага артыкула, паводле якога сям'я можа быць выселена за нявыплачаны крэдыт.

Залогам могуць быць асноўныя фонды вытворасці — абсталяванне, халадзільнікі, гандлёвыя памяшканні, склады, а таксама матэрыяльныя каштоўнасці і г. д.

**Гутарыў Аляксандр ГОРБАЧ.**

## Время сотрудничать!

**ПРУЖАНЫ.** В городе состоялась официальная встреча молодёжных организаций Пружанщины, организованная отделом по делам молодежи райисполкома. Отметили, что в районе действуют 9 подобных объединений. К сожалению, в круглом столе участие приняли лидеры только четырех "молодёжек": Владимир Радивончик (Белорусское объединение молодежных политиков), Евгений Валюкевич (РОМО "Гражданский форум"), Евгений Соломонов (Молодежный христианско-социальный союз) и Елена Коляда (РОО "БРСМ"). Основная цель встречи — налаживание связей по сотрудничеству. Такое начинание можно приветствовать.

Итоги круглого стола пока трудно назвать удовлетворительными, но начало уже положено. А время покажет, что из этого выйдет.

**Кристина КРУГЛЕВИЧ.**

## В районе — эксперимент

**ПРУЖАНЫ.** Приказом министерства образования РБ № 484 от 8.08.2001 г. утвержден проект "Автоматизация учебного заведения", по которому выделены шесть районов, где этот проект будет внедряться. По Брестской области выбор пал на Пружанский район.

В свою очередь в Пружанском районе выбор пока падает на гимназию и СШ № 3 г. Пружаны. Будут введены новые должности руководителя и инженера проекта, сформированы группы учителей, которые примут участие в эксперименте. К тому же участие в проекте примут санкт-петербургские коллеги с Кировского района города, где подобный эксперимент внедрен уже год назад и успешно продолжается.

**Кристина КРУГЛЕВИЧ.**

## Пераможцу яшчэ назавуць

**БЯРОЗА.** Тут нядаўна канцэрн "Мясамалпрам" правёў агляд-конкурс майстроў-сыраробаў. Удзельнікі гэтага конкурсу варылі два віды сыроў — "Расійскі" і "Пашахонскі". Мерапрыемства дзялілася на два этапы. Першы — тэарэтычны. Перамогу на ім атрымала майстар-сыраробка Бярозаўскага сыраробнага камбіната Надзея Сушчэвіч.

Вынікі конкурсу будуць падведзены праз 45 сутак. Столькі дзён патрэбна для таго, каб сыр "паспеў". Толькі пасля гэтага журы зможа назваць прозвішча пераможцы.

**Валянціна БАРЫСЕНКА.**

## Трагічна закончыўся "мядовы" месяц

**ДРАГІЧЫН.** Пра здарэнне ў вёсцыДзеткавічы, а іменна ў хаце мясцовага жыхара 47-гадовага Уладзіміра Мартыненкі, першым даведаўся калгасны брыгадзір. Гаспадар дома павесіўся, а яго сужыцелька, 50-гадовая Вера Герц таксама была мёртвай.

Пражылі "маладыя" разам прыкладна месяц. Увесь гэты час яны пілі і сварыліся, сварыліся і пілі. А дзе п'юць, там і б'юцца. У той ракавы вечар паміж імі ўзнікла бойка, у выніку якой жанчына загінула, а гаспадар дома павесіўся.

**Антон ХВЕДАРЧУК.**

## Успыхнуў... аўтамабіль

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Днём 3 кастрычніка ўвагу тых, хто знаходзіўся паблізу прывакзальнай плошчы райцэнтра, прыцягнуў вялікі слуп чорнага дыму. Гэта гарэў аўтамабіль AUDI-80, уладальнік якога, жыхар райцэнтра, не здолеў адразу ж адчыніць капот рухавіка, як толькі адтуль пачаў прасочвацца дым. Да таго ж у гаспадара не аказалася ўласнага вогнетушыцеля. На падмогу выклікалі байцоў раённай службы МНС, якія літаральна ў адно імгненне ліквідавалі пажар.

**Валерый МОЛАШ.**

## Грабят средь бела дня

**БАРАНОВИЧИ.** Привычка наших людей открывать дверь в любое время дня и ночи на стук или звонок неизвестного, порой, приводит к плачевному результату. На минувшей неделе два таких случая произошли в Барановичах. Мужчина средь бела дня открыл дверь на звонок. Незнакомые парни набросились на него, избили и под угрозой ножа и пистолета обворовали квартиру.

Через день история повторилась. Только на этот раз дверь открыла шестиклассница. Девочку связали, а из квартиры вынесли понравившиеся им вещи.

**Галина СТРОЦКАЯ.**

## РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

**Цэны на прадуктовых рынках нашага рэгіёну па стану на 10.10.2001 г. (у руб. за адзін кілаграм):**

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны | Драгічын |
|---|---|---|---|---|---|
| Свініна | 2500—3500 | 2500—4000 | 2500—3600 | 2500—3700 | 2600—3100 |
| Сала салёнае | 1900—2500 | 1800—2800 | 2200—2500 | 2100 | 2000—2800 |
| Алей (1 л) | 1050—1500 | 950—1500 | 950—1500 | 950—1500 | 950—1500 |
| Яйкі | 1000 | 1000 | 900—1000 | 1000 | 1000—1050 |
| Малако (3 л) | 600 | 600 | 600 | 680 | 600—670 |
| Кавуны | 250 | 250—300 | 500 | 250—300 | 250—300 |
| Масла сметанк. | 2200 | 2000 | 2000 | 2000 | 2100 |
| Бульба | 150 | 150—200 | 150 | 150 | 150 |
| Цыбуля | 500 | 600 | 500 | 500 | 500 |
| Морква | 400 | 300—500 | 400—500 | 400 | 300—400 |
| Капуста | 200 | 250—350 | 250—300 | 200—300 | 200—300 |
| Памідоры | 700—900 | 850 | 900 | 900 | 800 |
| Перац | 800—1000 | 700—900 | 700—800 | 700—800 | 700—800 |
| Сліва | 300—500 | 300—500 | 200—300 | 200—300 | 250—350 |
| Грэцкія арэхі | 3000 | 3000 | 3000 | 3000 | 2800 |
| Яблыкі | 150—300 | 150—400 | 150—400 | 150—300 | 100—300 |
| Маянэз | 280—340 | 240—420 | 250—420 | 270—450 | 250—520 |
| Вінаград | 1600—2000 | 1600—2200 | 1600—2200 | 1600—2300 | 1600—2100 |
| Мандарыны | 2200 | 2000—2200 | 2100—2200 | 2000—2200 | 2000—2300 |
| Часнок | 800—1000 | 800—1000 | 800—1000 | 800—1000 | 800—900 |
| Лімоны | 1800—2000 | 1900—2100 | 1900—2100 | 1900 | 2100 |
| Апельсіны | 1800—2000 | 2000 | 1800 | 2000 | 2000 |
| Бананы | 1000—1500 | 1000—1300 | 1000—1500 | 1000—1500 | 1100 |
| Грушы | 300—500 | 300—500 | 300—500 | 300—500 | 300—500 |
| Грэчка | 580 | 580 | 580 | 580 | 580 |
| Макар. вырабы | 550—650 | 500—600 | 580—650 | 500—600 | 670 |
| Рыс | 500—580 | 500—520 | 550 | 560 | 600 |
| Манныя крупы | 560 | 560 | 550 | 540 | 530 |
| Проса | 380 | 330 | 380 | 400 | 380—400 |
| Цукар | 700 | 700—720 | 700 | 700 | 700 |
| Мёд | 6.000 | 5.000-6.000 | 5.000 | 5.000 | 5.000-6.000 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 1490 | 1550 | 1490 | 1550 | 1490 | 1500 | 1490 | 1500 | 1490 | 1500 |
| 1 дойчмарка | 595 | — | 595 | 615 | 595 | 615 | 595 | 615 | 595 | 615 |
| 1 рубель Расіі | 48 | 50 | 48 | 50 | 48 | 49 | 48 | 50 | 48 | 49 |

## Пачым парасяты?

**ІВАЦЭВІЧЫ**
55 000—60 000 (за пару);

**БАРАНАВІЧЫ**
65 000—85 000 (за пару);

**БЯРОЗА**
60 000—70 000 (за пару);

**ПРУЖАНЫ**
50 000—70 000 (за пару);

**ДРАГІЧЫН**
55 000—65 000 (за пару).



# ПРЕЗИДЕНТСКИЕ ВЫБОРЫ — ПРОЙДЕННЫЙ ЭТАП

## Как жить дальше?

**Надежды демократической части белорусского общества на возможные прогрессивные перемены, к сожалению, не сбылись. Действующая власть, построенная по жесткой схеме централизованно-номенклатурного подчинения, использовав весь арсенал административного ресурса, вырвала у общества победу и сохранила себя, по крайней мере, на ближайшую пятилетку.**

**Оппозиционные демократические партии, общественные организации и иные институты открытого гражданского общества, в том числе независимые СМИ, вынуждены будут считаться с этим горьким для себя фактом. Им предстоит действовать в крайне сложных условиях, которые, скорее всего, будут ужесточаться.**

Уже сегодня очевидно, что самосохранившаяся власть настроена на дальнейшее совершенствование и укрепление своих оборонительных антидемократических "сооружений". Особое место в этих фортификационных работах отводится средствам массовой агитации и пропаганды (СМАП). В ходе президентской избирательной кампании стало окончательно ясно, что широкомасштабная монополизация "государственных" печатных изданий, радио и ТВ достигла своего апогея и приблизилась к абсолютному. Поэтому с полным основанием мы можем говорить о полном перерождении "государственных" СМАП и переходе их в новое качество: газеты, радио и ТВ превращены в чисто ведомственные (центральных, областных и районных структур власти) массово-пропагандистские информационные средства. Соответственно определена структура "вертикальной" подчиненности и ответственности руководителей и иных служащих этих средств.

Как это ни печально осознавать, журналистика как одна из свободных общественных профессий в этих ведомственных органах пропаганды прекратила свое существование. Немногим из тех, кто по инерции будет называть себя журналистом, в скором времени придется столкнуться с абсолютной зависимостью от властных идеологов и, соответственно, от неумолимых цензоров. Журналист, вынужденный беспрекословно исполнять волю власти, уже не журналист, а лишь оформитель этой воли.

В таких условиях можно прогнозировать резкое обострение отношений (соперничество) двух видов информационных источников — ведомственных и независимых СМИ. Если усилия первых ориентированы на однобокую идеологическую обработку общественного сознания ("глубинное зомбирование") с целью создания обстановки тотального единомыслия, то задача независимых СМИ демократической ориентации — диаметрально противоположная. Среди приоритетов независимой журналистики, на наш взгляд, можно выделить следующие направления.

Во-первых, как и прежде, объективное информирование обо всех сторонах жизни общества и государства, максимально полное и взвешенное отражение событий внутри страны и за ее пределами.

Во-вторых, критический анализ взаимоотношений, возникающих в структуре: человек - общество - государство. Этот анализ должен затрагивать разные сферы: экономику, политику, право, культуру и т.д.

В-третьих, доведение правдивой и непредвзятой информации до широких слоев общественности и в результате, насколько это возможно, — нейтрализовать антиобщественную деятельность ведомственных СМАП.

В-четвертых, соблюдение всех мер предосторожности. Это предполагает следование нормам действующего законодательства даже тогда, когда независимые журналисты считают его антидемократическим и не отвечающим международным стандартам в области свободы слова.

В-пятых, проявление корпоративной солидарности. Любой "наезд" властных структур или отдельных чиновников на независимую прессу должен расцениваться как нападение на свое издание. Образно говоря, должен действовать принцип "информационного бумеранга" с максимально широким оповещением общества об истинных причинах очередного "наступления" властей на независимые СМИ.

Возвращаясь к президентским выборам, следует иметь в виду, что их последствия еще долго будут давать о себе знать. И вероятнее всего, они будут проявляться в усилении конфликтности между беззащитным обществом и вооруженным государством. При этом одним из главных орудий государства будут оставаться его идеологические пропагандистские органы, — надежно защищенные властью и фактически неподсудные. Именно они внесли основную лепту в информационное обеспечение "элегантной" победы и теперь будут закреплять ее плоды.

Можно не сомневаться, что обстановка политико-правового и социального конфликта в стране будет накаляться и далее: старой-новой власти жизненно необходимо хотя бы внутреннее, но всеобщее признание ее легитимности. Любые сомнения на сей счет будут трактоваться не иначе, как "антинародные" и "враждебные". А сомнения, высказанные публично (что можно сделать только посредством независимых СМИ), могут трактоваться, вполне возможно, как оскорбление и клевета в адрес "народного избранника" или вообще как "антигосударственная" пропаганда и агитация. На сей счет предусмотрены строгие санкции в действующем законодательстве и, в частности, — в Уголовном кодексе. Гродненская "Пагоня", пинская "Провинциалка" уже почувствовали на себе веяния "нового порядка".



IREX/Pro-Media.

**Разломанный компьютер в редакции газеты "День", на офис которой было совершено нападение, г. Минск.**

Большинство независимых белорусских газет, принимавших активное участие в избирательной кампании, отмечают повышенное внимание к себе со стороны властных структур, особенно на региональном уровне. Сейчас в кампанию по их дискредитации включаются и подведомственные власти СМАП. В определенной степени — это новый этап развернутого наступления властей на свободу слова, на права и профессиональную независимость негосударственных масс-медиа демократической ориентации. Если раньше "государственные" газеты, радио и ТВ лишь эпизодически устами своих наиболее одиозных "комментаторов" и "аналитиков" швыряли камни в огород свободной прессы, то теперь это превращается в практику. Похоже, начинают сбываться обещания главного претендента на президентский пост — "разобраться со всеми после выборов". Но как бы то ни было, свободной прессе предстоит продолжить свою огромной общественной важности деятельность.

Прошедшие выборы, в отличие от "парламентских" 2000 года, показали, что многие независимые СМИ более ответственно и профессионально подошли к освещению этого важнейшего события в жизни общества и государства. Именно активность свободных журналистов стала главной причиной нападок на них со страниц ведомственной прессы, из радио- и телеэфира. Дезинформации и надуманным обвинениям в "предвзятости" независимые СМИ могут (и должны!) противопоставить четкие и понятные общественности контраргументы. Следует исходить из того, что с окончанием президентских выборов конца света не наступило. Жизнь продолжается, а, следовательно, не прекращается и поиск истины.

Если говорить образно, то средства массовой информации, их роль в избирательном процессе можно определить в качестве "пятого элемента", необходимого для активизации всех остальных элементов этого процесса. И это не единственная функция СМИ. Они призваны не только ознакомить потенциальных избирателей со всеми участниками избирательной борьбы, но и обеспечить посредством информирования ее прозрачность, честность и порядочность. Они должны исполнять роль общественного наблюдателя, контролера и информатора одновременно. В системе выборов для прессы не может быть закрытых мест.

Вот почему для недобросовестной власти, стремящейся к "победе любой ценой", независимые СМИ в буквальном смысле слова — кость в горле. Такая власть начинает шуметь о "двойных стандартах" сразу же, как только ее начинают принуждать к соблюдению общепризнанных правил. Эта власть желает проводить выборы исключительно по своим "особым" правилам. Но так не бывает и не будет, если мы хотим жить в семье цивилизованных стран и народов.

Все попытки власти поставить независимые СМИ на колени, задушить в стране свободу слова — это международный приговор самой власти, которая пытается скрыть свою сущность посредством псевдодемократической фразеологии. Белорусское общество уже пришло к пониманию, что такое рудимент советско-коммунистической эпохи, как "государственные" СМИ, давно должно занять свое место на полках истории.

**Михаил ПАСТУХОВ,**
**Юрий ТОПОРАШЕВ,**
**эксперты по СМИ при Консультативном совете оппозиционных политических партий.**

# "Мёртвыя цягнуць жывых"

## Выбары вачамі назіральніка

**У тых выбарах, якія 9 верасня адбыліся на Беларусі, я прымаў удзел у якасці назіральніка ў адной з вёсак Івацэвіцкага раёна і падчас выезду членаў камісіі са скрынкай для галасавання быў сведкам і ўдзельнікам невялікай, так бы мовіць, спрэчкі-замінкі, якая, на мой погляд, шмат гаворыць аб выбарах.**

Са скрынкай для галасавання выязджаем да тых, хто не можа самастойна прыбыць на выбарчы ўчастак.

Заходзім у двор... Гэта не тое, што двор, а так, знешняе падабенства: паваленыя плот, дзе-нідзе пасаджаныя кветкі ля старой, урослай у зямлю хаткі, нейкія невялічкія адмецiны жыцця: рукамыйнік пад ссохлай вішняй, пражджаўленыя ночвы каля лужы, бутэлькі ў траве...

Сціскаецца сэрца. Стукаем у дзверы. Дрыжачай рукою дзверы адчыняе ссохлая, нібы тая вішня, бабуля.

Прадстаўляемся.

— О, чакаю вас, — кажа яна дрыжачым галаском і тут жа, у сенцах, пачынае шукаць свае акуляры.

— За каго галасаваць будзеце? — прачышчаючы горла пытаюся я.

Вочы ў старой хітра ўсміхаюцца. Яна ўжо супакоілася (бо знайшла, нарэшце, акуляры) і адрывіста кажа мне:

— Не спадзявайцеся, за вашага Кебіча галасаваць не буду!

— Як за Кебіча? — сумеўся я. — Дык яго няма сярод кандыдатаў. Каб вы і хацелі за яго прагаласаваць, то не прагаласавалі б!

— Ну не за Кебіча, а за гэтага, як яго... Гм, бабы казалі, як яго, гэтага нягодніка. Гм, забылася... А! За вашага Шушкевіча галасаваць не буду ні ў якім разе.

— Але і яго няма!

— Адвяжыцеся! — злосна кажа бабуля. — От прывязаўся! За каго, за каго? За таго, хто мне пенсію дае! Давайце лісціну. Пачытайце прозвішчы, бо я і ў акулярах ледзь бачу.

... Член камісіі паказвае пальцам той квадрацік, які насупраць прозвішча таго, хто "пенсію дае" бабульцы.

Відаць, праўду казаў Васіль Быкаў, сцвярджаючы, што "мёртвыя цягнуць жывых" (ён меў на ўвазе іменна тое, што старыя людзі — асноўны выбаршчык). Ці не больш правільна было б ездзіць з гэтай скрынкай па першаму ж выкліку да маладых, каб тыя абіралі прэзідэнта. З якім ім жыць.

**Аляксандр МІХАЛЕНКА.**
**г. Івацэвічы.**

# Известность — не напасть

## Как бы по-хорошему людей не перестать удивлять

Продолжаем, уважаемые читатели, публиковать результаты нашего исследования по определению известности среди населения тех лиц, которые по долгу службы должны быть известны людям и призванных быть наряду и отцами, и судьями, и утешителями, и миротворцами (начало см. в № 40 за 5—11 октября с. г.). Еще раз подчеркиваем, что наше исследование не претендует на статус рейтинга служебных лиц, но об их популярности говорит многое.

Итак, кто же наиболее известен (в процентном отношении к числу опрошенных)

**в Пружанском районе:**

1. Александр Иванович Юркевич — председатель Пружанского райисполкома — 28,5% опрошенных;
2. отец Иосиф — настоятель собора святого Александра Невского — 8%;
3. Елена Николаевна Лагода — судья Пружанского районного суда — 6%;
4. Николай Александрович Кривушин — военком Пружанского райвоенкомата — 5%;
5. Алексей Иванович Мартынюк — предприниматель (кооператив "АСТ") — 3%;
6. Иван Сергеевич Козорез — заместитель председателя Пружанского райисполкома — 3%;
7. Иван Николаевич Почичник — главврач Пружанского РТМО — 3%;
8. Николай Васильевич Козлович — управляющий Пружанским филиалом Белагропромбанка — 2%;
9. Николай Иванович Дацкевич — фермер — 2%;
10. Евгений Иванович Кудинов — экспредседатель колхоза "Рассвет";

**в Дрогичинском районе:**

1. Владимир Матвеевич Жданович — бывший директор гимназии г. Дрогичина, депутат палаты представителей Национального собрания Беларуси — 9,1%;
2. Сергей Павлович Мамотюк — председатель Дрогичинского райисполкома — 8,4%;
3. Михаил Николаевич Стахейко — главврач районного центра гигиены и эпидемиологии — 6,3%;
4. Анатолий Иванович Денисейко — прокурор района — 5,6%;
5. Иван Иванович Сухаревич — директор рыбхоза "Новосёлки" — 4,2%;
6. Александр Иванович Сушков — директор СШ № 1 г. Дрогичин — 3,5%;
7. Геннадий Адамович Рассолов — директор комбикормового завода — 3,5%;
8. Николай Николаевич Дудин — директор БГП "Экзон" — 3,5%;
9. Зоя Романовна Сакович — директор Антопольской СШ — 2,8%;
10. Вера Павловна Беликина — бывшая учительница, пенсионерка — 2,8%.

**Галина АЛЕКСИЕВИЧ,**
**Кристина КРУГЛЕВИЧ.**

# ПРАДВЕСНІК АДРАДЖЭННЯ

(Заканчэнне.
Пачатак у №№ 39, 40)

## IV. "НАЗБІРАЛАСЬ ВЯЗАНАЧКА НА ДАР МАЁЙ БРАЦІ..."

1.

Янка Лучына памёр 16 ліпеня 1897 года. Пражыў усяго сорак шэсць гадоў. І толькі адзінаццаць з іх былі адпушчаны на актыўную творчасць.

Як паэт, Янка Лучына вырас і сфарміраваўся на традыцыях беларускай народнай творчасці, прагрэсіўнай польскай і рускай літаратур. Часта звяртаўся да творчай спадчыны паэта-дэмакрата Уладзіміра Сыракомлі, вершы якога перакладаў на беларускую мову, быў знаёмы і перапісваўся з польскай паэтэсай Марыяй Канапніцкай.

У сваёй лірыцы паэт выступаў як выразнік дум і настрояў свайго народа, як верны яго слуга і абаронца. Асаблівасцю яго вершаў з'яўляецца імкненне зазірнуць у душу простага чалавека, раскрыць яго пачуцці і перажыванні. Характэрны прыклад — верш "Што думае Янка, везучы дровы ў горад".

2.

Каб купіць хлеба для сям'і, Янка вязе прадаваць дровы. Па дарозе ў горад яму няма з кім падзяліцца сваімі думкамі. І тады ён звяртаецца да свайго адзінага спадарожніка, напарніка па бядзе, да худой кабылкі.

От і свята, от каляды,
На марозе скрыпяць санкі...
Усе на свеце святку рады,
Усюды песні і гулянкі.
Скачуць хлопцы і дзяўчата,
А гарэлкі п'юць чы мала?!
Адно слова — ўсюды свята.
Ну! кабыла, чаго стала?!
Чаго стала?!.. скажаш
— цяжка,
Ды й не надта ж ты і сыта,
А мне лёгка?..
глядзь, сярмяжка
Стара... рвана... ветрам шыта...
Стаў крапчэй мароз на святу,
Ось і зорка заблiскала.
Хоць скарэй бы мне ў хату.
Ну! кабыла! чаго стала?!
Дроў у месце многа трэба,
І цана на іх сярдзіта,
Прадам дровы —
куплю жыта.
От і лезу з цяжкім возам,
Як бяда у карк пагнала
Такім ліхам ды й марозам!..
Ну, кабыла, чаго стала?!
Адагрэцца б у карчомцы,
На дарогу стукнуць чарку...
Дык я вінен грошы Шлёмцы,
Каб не даў часам па карку!
Ой ты, доля!.. ў гэту пору,
Як мяне ды ты прабрала!..
Ну, кабыла! Ну, на гору!
Каб ты здохла, чаго стала?!

3.

Як ужо адзначалася вышэй, Лучына — вялікі патрыёт радзімы. З болем на душы ён гаворыць пра абяздоленасць народа, беднасць сваёй старонкі, паказвае глыбокую адданасць простага чалавека сваёй бацькаўшчыне. Такія вершы, як "Роднай старонцы" і "Пагудка", складаюць значную частку яго лірыкі на патрыятычную тэму.

Лёс верша "Роднай старонцы" складваўся вельмі шчасліва. За подпісам "Н-скій" ён быў надрукаваны ў 1892 годзе ў "Северо-Западном календаре на 1892 год".

Пецярбургская суполка "Загляне сонца і ў наша аконца" распачала ў 1906 годзе выдаваць першыя беларускія паштоўкі. Адна з іх прысвячалася і Янку Лучыне. На ёй разам з партрэтам песняра былі змешчаны радкі з верша "Роднай старонцы". У 1919 годзе славуты мастак Язэп Драздовіч паводле гэтага верша стварыў цікавую графічную кампазіцыю.



Янка Лучына (Іван Неслухоўскі).

## V. У ДУШЫ ЯГО АГОНЬ ПАЛАЎ

1.

Я маю на ўвазе ў душы Янкі Лучыны. Агонь сапраўднай паэзіі, які саграваe душы іншых, такіх жа патрыётаў, як і наш славуты зямляк.

Невыпадкова вядомы беларускі паэт, празаік і літаратуразнаўца Алег Лойка зазначыў, што верш Янкі Лучыны "Роднай старонцы" з'яўляецца **"найбольш папулярным творам. Гэта вяршыня яго лірыкі. Янка Лучына як паэт, дэмакрат і патрыёт выказаўся тут найпаўней..."**

Удумліва ўнікнем у сэнс гэтых шчырых паэтычных радкоў:

Ты параскінулась лесам,
балотамі,
Выдмай пясчанай,
неўраджайнаю,
Маці-зямліца, і умалотамі
Хлеба нам мерку
не даш звычайную.
А сын твой, беднаю адзет
сярмягаю,
З лыка пляцёныя
лапці абуўшы,
Едзе драбінамі ці калымагаю,
Конем, што цягне,
як бы заснуўшы...
Усё ў табе бедна.
Часта заплача
Мужык араты
дзеля злой долі,
Цяжка працуючы.
Ён жа, аднача,
З табой расстацца
не жджэ ніколі.
І непрыглядную хату
з пажыткамі,
І поле скупое,
выган без пашы
Мы, апрануўшыся
старымі світкамі,
Любім і цэнім — бо яны нашы.
Дасць Бог крывавым потам
аратаму
Здабрыць пясчану
зямліцу здарыцца,
Быць добра сытаму,
хоць не багатаму,
А дзеля празніка чарка
нам зварыцца.
Сонца навукі
скрозь хмары цёмныя
Прагляне ясна
над нашай ніваю,
І будуць жыці дзеткі
патомныя
Добраю доляй —
доляй шчасліваю!..

2.

Працягваючы гэтую тэму, паэт прызнаецца:

Не я пяю — народ Божы
Даў мне ў песні лад
прыгожы,
Бо на сэрцы маю путы
І з народам імі скуты.
З ім я зліўся з добрай волі
Ці што ў долі, ці ў нядолі...
("Не я пяю...")

"Вязанка" — самая першая беларускамоўная кніжка мінулага ХХ стагоддзя. Яна была выдадзена гуртком студэнтаўбеларусаў у 1903 годзе ў Пецярбургу, амаль сто гадоў таму. На жаль, Янка Лучына, аўтар гэтага паэтычнага зборніка, пры жыцці яго не пабачыў.

Ягоны польскамоўны зборнік пад назвай "Паэзія" Яна Неслухоўскага выйшаў у 1898 годзе, праз год пасля смерці паэта.

Усё ж пры жыцці паэт убачыў толькі адну сваю кніжку — "З крывавых дзён". Яна была выдадзена, па сутнасці, ананімна. Ніхто ў той час не схацеў адкрыцца, бо адчуваў небяспеку з боку царскіх уладаў, для якіх беларуская мова не існавала.

Літаратурную спадчыну Янкі Лучыны ацаніў у свой час Максім Багдановіч у артыкуле "І. Неслухоўскі". Сюды ж адносяцца і творы, якія паэт перакладаў. У цэлым, як зазначыў літаратуразнаўца Уладзімір Мархель, Янку Лучыне ўласцівы свабодны падыход да арыгінала, адметны ў кожным асобным выпадку. Ён перакладаў на рускую мову польскіх аўтараў (захаваліся толькі пераклады з Адама Асныка), а па-польску ўзнаўляў творы некаторых рускіх паэтаў: вершы Вольгі Чюмінай, Мікалая Някрасава, Уладзіслава Салаўёва, Аляксея Хамякова, байкі Івана Крылова.



Ля магілы Янкі Лучыны Я. Міклашэўскі, Б. Сачанка, Максім Танк, Ул. Казбярук, Н. Гілевіч, Я. Янішчыц, А. Мальдзіс.




Паштовая марка з выявай Янкі Лучыны.

Але вядучую ролю ў плане вучобы і перакладчыцкай дзейнасці Янка Лучына аддаваў перавагу творам прызнанага песняра беларускага краю Уладзіслава Сыракомлі.

З удзячнасцю ўспамінаў пра Янку Лучыну класік беларускай літаратуры Якуб Колас: **"Яшчэ ў пачатковай школе выпадкова трапілі да мяне ў рукапісе беларускія вершы, напісаныя Янкам Лучынай (як я потым даведаўся). Гэтыя вершы я вывучыў на памяць і любіў дэкламаваць".**

3.

У прадмове да кнігі Янкі Лучыны "Творы", характарызуючы ягоны паэтычны вобраз Грышкі — эпічнай постаці беларускага лесніка — наш сучасны літаратуразнаўца, Лучынаўскі даследчык — бібліёграф Уладзімір Мархель напісаў наступнае: **"Па маштабу і ўзроўню мастацкага абагульнення роўнага яму вобраза ні ў беларускай літаратуры, ні ў іншамоўнай літаратуры Беларусі другой паловы XIX стагоддзя няма. Таму "Паляўнічыя акварэлькі з Палесся" можна паставіць у такі гістарычна перспектыўны рад выдатных твораў, як "Песня пра зубра" Міколы Гусоўскага і "Пан Тадэвуш" Адама Міцкевіча, якія прадвызначылі з'яўленне "энцыклапедыі беларускага жыцця" — "Новай зямлі" Якуба Коласа".**




Уладзімір Крук.

Надпіс на магіле Янкі Лучыны.

**"Малады адкрыты твар з акуратнай густой барадою, высокім ілбом і разумнымі сумнавата-ўважлівымі вачыма за акулярамі ў тонкай металічнай аправе,** — працягвае Уладзімір Мархель. — **Нашае ўспрыманне, бачанне вывы Янкі Лучыны (Івана-Яна Неслухоўскага) скіравана ў мінулае, і нам, можа, няўцям, што гэта мінулае памкнёна да нас позіркам паэта. Ён глядзіць на нас адтуль, з свайго часу, і калі мы, вызваліўшыся ад недарэчнай мітусні і грамадскага вэрхалу, учытаемся ў яго вершы, мы адчуем у ім суразмоўніка, наблізімся да сумоўя душ, якое і ёсць непарыўнасць часу..."**

А я яшчэ б дадаў, што Янка Лучына — гэта прадвеснік адраджэння нашай бацькаўшчыны, якую ён бачыў у светлай будучыні са змрочнага мінулага:

Чую, што ў душы агонь
палае божы...
Песні нашых вёсак мне
надзею множаць...

З гэтай надзеяй жыў Янка Лучына. Гэтая надзея жыла і жыве ў яго творчай спадчыне. Гэтую надзею ён перадаў сваім нашчадкам. І мы сёння — таксама з надзеяй глядзім у будучыню і спадзяёмся, як і Янка Лучына, на добрую долю, на долю шчаслівую.

Мікола ЖУКОВІЧ,
настаўнік беларускай мовы і літаратуры сярэдняй школы №1 г. Бяроза.

# Н.И. Тюшкевич: "Новороссийск" ВЗОРВАЛСЯ НА МИНЕ

*Прошло уже почти полвека с той страшной октябрьской ночи 1955 года, когда прямо на рейде Севастопольской бухты произошла одна из самых крупных катастроф в истории советского военно-морского флота в послевоенное время – перевернулся и затонул линейный корабль "Новороссийск". Долгое время случившаяся трагедия была государственной тайной, и в отечественных средствах массовой информации о ней не было ни слова. Очевидец тех событий Николай Илларионович Тюшкевич из Берёзовского района до сих пор интересуется всем, что связано с гибелью линкора.*


На этом снимке 1954 года матрос Николай Тюшкевич ещё не подозревает, что станет свидетелем одной из крупнейших морских катастроф XX века.

## Личное дело

**Родился в 1937 г. в д.Блудень (ныне д. Первомайская Берёзовского р-на).**

**В 1952-55 гг. служил на крейсере "Фрунзе" Черноморского флота.**

**После службы работал на предприятии "Электросети", в совхозе "Берёзовский". Сейчас пенсионер.**

**Православный. Поёт в церковном хоре. Никогда не был пионером, комсомольцем, не состоял в партии. Посещал церковь даже в годы застоя.**

## Как это было

— Осенью 1955 года на Черноморском флоте проходили двухнедельные учения, — рассказывает Николай Илларионович. — 28 октября мы с них вернулись и стали в Севастопольской бухте. Там были крейсеры "Фрунзе", "Ворошилов", "Кутузов", другие корабли. Линкор "Новороссийск" занял место на "линкорной бочке" в районе Морского Госпиталя в 150 метрах от берега (глубина 17 м воды и около 30 м вязкого ила).

Утомлённые офицеры и матросы разошлись отдыхать по своим местам, кто-то ушёл в увольнительную на берег. Ничто не предвещало беды. И тут среди ночи звучит сигнал боевой тревоги. Оказывается, произошло нечто ужасное с линкором "Новороссийск", стоявшим от нас в полукилометре и прекрасно видимым с нашего крейсера. Взрыва слышно не было, видимо оттого, что произошёл он во внутренних переборках корабля. Но его зарегистрировали даже сейсмические станции.

Потом мы уже узнали, что ровно в 1:30 в носовой части корабля в районе правого борта прогремел взрыв неизвестного происхождения, по оценкам равный 1000-1200 кг тринитротолуола. Он был такой гигантской силы, что пробитыми навылет оказались все палубы корабля, из них три бронированные. Хорошо ещё, что не сдетонировали боеприпасы главного калибра, иначе вообще вряд ли бы кто выжил. В днище корабля образовалась пробоина площадью около 150 квадратных метров. Вода стала стремительно заполнять отсек за отсеком. Командование корабля пребывало в растерянности. Вместо того, чтобы отвести тонущий линкор на менее глубокое место и посадить его на мель, экипаж "Новороссийска" отчаянно боролся за живучесть корабля. Но при такой пробоине это безуспешное занятие. Линкор стал давать крен. К нему экстренно направляются аварийные партии с других кораблей, стоящих поблизости, в том числе и спасательная команда с нашего крейсера "Фрунзе". На тонущий флагман прибывает всё командование Черноморского флота, включая адмирала Виктора Пархоменко, однако и высшие офицеры не сумели грамотно организовать работы по спасению линкора. Никто из матросов и офицеров не покинул боевого поста, хотя с каждой минутой шансы на спасение таяли. Командование так и не позволило эвакуировать личный состав.

В 04:15 на глазах у всего Севастополя корабль опрокинулся через левый борт и в таком положении оставался несколько часов, уперевшись в твердый грунт мачтами. Только в 22:00 корпус полностью исчез под водой.

## Жертвы

— По официальной версии, жертвами трагедии стали 609 человек, включая аварийные партии с других кораблей эскадры, однако реальное число погибших, по некоторым данным, превышает 1000.

Сразу же при взрыве погибло около двухсот моряков.

Затем, когда крен достиг критической отметки в 45 градусов, с палубы стали отрываться и падать в воду различные предметы оснастки, вооружения, травмируя и убивая людей, в том числе и спасателей с других судов.

## Линкор "Новороссийск"

**Линейный корабль "Джулио Чезаре" постройки времен первой мировой войны СССР получил по решению Тройственной комиссии 1948 года при разделе итальянского флота. 9 декабря 1948 года "Чезаре" навсегда покинул порт прописки Таранто. 6 февраля над кораблем подняли военно-морской флаг СССР, а через две недели он вышел в Севастополь. Приказом по Черноморскому флоту от 5 марта 1949 года линкору присвоили название "Новороссийск".**

**Длина линкора 185,4 м, ширина — 28 м, осадка — 10,8 м, водоизмещение 27500 тонн. Без пополнения топлива линкор мог пройти 6 000 км.**

**Вооружение: десять 320-миллиметровых, двенадцать 120-миллиметровых орудий, восемь 100-миллиметровых пушек и 36 скорострельных автоматов. Снаряды главного калибра имели вес 526 кг плюс 147 кг порохового заряда. Несколько залпов "Новороссийска" могли превратить в руины такой город, как Одесса.**


Линкор "Новороссийск" на параде в Севастополе, предположительно 1955 г.

Часть моряков спаслась вплавь, многие оказались заживо замурованными в корпусе корабля. Воздушные подушки отсеков опрокинувшегося линкора позволяли им ещё какое-то время дышать, а значит жить. По всему корпусу корабля разносился беспорядочный стук — это они давали знать о себе. Из немалого числа узников перевернувшегося корабля спасли лишь девять человек. Через прорезанное в кормовой части днища отверстие вышли семь моряков, еще двоих удалось спасти водолазам спустя почти трое суток, выведя их из-под палубы юта, неплотно прилегавшей к грунту.

Количество жертв было бы меньшим, если бы вечером этого злополучного дня на линкор не прибыло пополнение из солдат береговой охраны общим числом около пятисот человек. Они были практически не обучены корабельной жизни и гибли в первую очередь.

В последующие дни специальные команды занимались уже поиском и подъёмом трупов. Делалось это в обстановке секретности, ночью. Хоронили их на Северном кладбище Севастополя, на других кладбищах, в братских могилах. И тоже в обстановке строгой секретности.

## Причина гибели

— До сих пор никто со стопроцентной уверенностью не может сказать о действительных причинах неожиданного взрыва и гибели линкора: все материалы по этому делу были тотчас же засекречены, и до сих пор лежат в архивах под грифом "Совершенно секретно". В то же время в прессе появляются новые версии, граничащие порой с откровенным вымыслом.

По официальной версии наиболее вероятной причиной подрыва линкора явился взрыв под днищем корабля, в носовой его части, немецкой мины, оставшейся с времен Великой Отечественной войны, однако многие сомневаются в её истинности.

Вторая наиболее правдоподобная причина — диверсия. Вполне допустимо, что итальянские патриоты не захотели мириться с передачей СССР одного из своих лучших кораблей, поэтому предположение о причастности к взрыву "Новороссийска" итальянских подводных диверсантов является весьма убедительным.

В пользу этой версии могу поделиться своими рассуждениями. Когда Черноморский флот покинул Севастопольскую бухту и вышел на двухнедельные учения в море, вход в бухту, обычно закрытый бонами, был открыт. В это время и могли туда проникнуть водолазы или бесшумные подлодки. Об этом до сих пор нигде не пишется, но потом, когда из бухты вывели все корабли и её исследовали, оказалось, что вся бухта была заминирована. Мины были найдены и на стоянке нашего крейсера "Фрунзе", и под крейсером "Кутузов". У пирса стояли эсминцы, и там тоже были заложены эти штуки. Их потом вытаскивали в море и взрывали на внешнем рейде. Почему они не взорвались сразу и под другими кораблями? Это был вопрос времени. Наши корабли не становились на якорь, а закреплялись при помощи воздушных "бочек", поэтому возможность их столкновения с минами была волей случая.

Мою версию отчасти подтверждает и известное мнение о том, что те, кто устанавливал заряды или мины, плохо знали устройство корабля. Не ошибись они примерно на десять метров, взрыв произошел бы в районе артпогреба главного калибра. Такой промах вряд ли допустили бы итальянцы при специальном минировании "Новороссийска". Их боевые пловцы проводили тренировки по подводному минированию именно на линкоре "Джулио Чезаре" (в будущем "Новороссийск") и прекрасно знали особенности его подводной части и наиболее уязвимые места. Значит, это не итальянские диверсанты. Чьих же тогда рук это дело? Неизвестно...

* * *

— О дальнейшей судьбе линкора "Новороссийск" я узнал уже в начале 90-х, когда в прессе наконец-то стали появляться материалы о той трагедии. Летом 1956 года экспедиция особого назначения приступила к подготовке по подъему линкора. Подъём осуществили 4 мая 1957 года. Через несколько дней корабль перевернули и в дальнейшем он был разобран на металл.

Хочется добавить, что в 1916 году на этом же месте взорвался линкор "Императрица Мария", и тоже при невыясненных обстоятельствах. Если же взять ещё недавнюю трагедию российского атомохода "Курск", то у всех этих катастроф можно обнаружить нечто общее — гибель экипажа вместе с кораблём.

**Подъем линкора "Новороссийск". Май 1957 г. Хорошо видна пробоина в днище.**



Полосу подготовил Николай СИНКЕВИЧ.

